

На Крычаўскім цэментна-шыферным камбінаце будуецца трэцяя магутная вярчальная печ для абпалу клінкеру. Калектыў гэтай ударнай камсамольскай будоўлі спаборнічае за датэрміновую здачу печы ў эксплуатацыю ў жніўні гэтага года.

Фота М. МІНКОВІЧА.

# ОРДЭР НА ЗНЯВАГУ

Гэта было на прадвесні. Павел Міхайлавіч Бруеў тады вярнуўся з арміі ў званні старшага лейтэнанта танкавых войск. Уладкаваўся шафёрам у аўтабазе Віцебскага будаўнічага трэста.

Калі Бруева прымалі на працу, у яго спыталі:

— Дзе, Павел Міхайлавіч, будзеце жыць? Кватэрамі пакуль што не забяспечваем... Потым... А пакуль што станьце, як іншыя, у чаргу.

— Ведаю. Горад наш быў разбіты ўшчэнт. Пацярплю. Пажывём на прыватнай кватэры.

Так і жыў. У падвале. Чакаў сваёй чаргі.

Аднаго разу на досвітку Бруеў атрымаў загад: тэрмінова адвезці матор на Мінскі аўтамабільны. Паснедаў і паехаў. Баранка была ў моцных руках. І думка была адна: не прымусіць заводскі цэх чакаць заказ. Спяшаўся.

І тут яго падпільнавала няшчасце...

Перад вачыма замільгацелі дрэвы, паплылі прыдарожныя слупкі... Не таму, што машына развіла шалёную хуткасць. Не. Вадзіцель пачаў раптам траціць прытомнасць. Аднак машына не апынулася пад адхонам. Павел Міхайлавіч груз даставіў. А сам злёг. Надоўга. Урачы прызналі трамбоз левай унутранай соннай артэрыі. Два гады ў бальнічным ложку... Бясконцыя гадзіны пад кіслародам...

Аўтабаза, у якой працаваў Бруеў, тады ўжо была перададзена з будаўнічага ў аўтамабільны трэст. І калі хворы вярнуўся з бальніцы да сям'і, у той самы падвал, яго наведалі прадстаўнікі прафсаюзнай арганізацыі. Толькі цяпер яны даведаліся, што ў сям'і шафёра, які стаў інвалідам, — пяць душ, што ўмовы жыцця ў іх дрэнныя, асабліва для цяжка хворага Паўла Міхайлавіча. Прадстаўнікі склалі акт, у якім канстатавалі, што, як толькі будзе здадзены першы ж жылы дом, сям'і Бруевых павінна быць выдзелена асобная кватэра ў першую чаргу. Падзякавала сям'я за чуласць і стала спакойна чакаць.

...У новым мікрараёне Віцебска для соцень людзей будзень ператварыўся ў свята. Туды спяшалася чарада грузавікоў з новай мэбляй. Ехалі навасельцы займаць камунальныя кватэры. А ззаду, абапіраючыся на кавеньку, ціха крочыў Павел Міхайлавіч Бруеў. Яму таксама выдалі ордэр на кватэру. Адпачыў у дарозе, потым у двары новага дома — і пайшоў шукаць той высокі паверх і тое жыллё, якое яму выдзеліў трэст. Вось ён пасярэдзіне пакоя стаіць заклапочаны і разважае:

— Восем квадратных метраў з невялікім гакам... Што тут можна паставіць? Як размесціш немаленькую сям'ю? І сам хворы... Яшчэ і цяпер да кіслародных падушак даводзіцца вяртацца...

Дастаў з кішэні ордэр, чытае...

«Склад сям'і — адзін чалавек...»

Кінуў ён гэтую паперку пад ногі, падумаў:

«Як разумець гэтых людзей? Куды яны выкінулі са спісу жонку і траіх дзяцей? Чаму такія непамяркоўныя, — як на дзве асобы — два пакоі, а мне — паўтара метра на чалавека?» Аднак схамянуўся, падняў ордэр («Усё ж лепш, чым у прыватным падвале...»).

А далей камунальнікі строга трымаліся інструкцыі. Паўла Міхайлавіча прапісалі, а астатніх чатырох — нельга! — плошча не дазваляе. Не верыце — прачытайце закон за нумарам... Сам начальнік раённага аддзела міліцыі маёр Іваноў прыходзіў, вельмі спачуваў Бруевым, аднак нічым не ўсцешыў: па закону сям'ю прапісаць нельга... Тады насустрач пайшоў Даніла Фёдаравіч Райцаў — былы камандзір партызанскай брыгады.

— Неяк памяркуемся, — сказаў ён. — Каб вас у горадзе не штрафавалі, прапішу ў сваю дамавую кнігу.

Цяпер, калі Данілава жонка дзяжурыць у абласной бальніцы або ён сам знаходзіцца ў камандзіроўцы, палавіна Бруевых начуе ў доме Райцава. І ў міліцыі, і ў Акцябрскім райвыканкоме, і ў аўтамабільным трэсце задаволены: як ні кажы, а людзі пад дахам!

Кожны дзень Бруеў у хадзе. Зранку піша заявы і носіць іх у розныя віцебскія ўстановы, гадзінамі сядзіць у прыёмных гаркома партыі, гарвыканкома, трэста, райвыканкома. Нагадвае кіруючым таварышам пра тое, што яны дзесяткі разоў чулі з яго вуснаў. У канцы красавіка гэтага года, здавалася, шлюзы, нарэшце, расчыніліся і справа пайшла на лад. Стомленаму цяганінай і цяжкай хваробай паспачуваў першы сакратар Віцебскага гаркома партыі Васіль Мікітавіч Сініцын. Ён моцна абураўся:

— Хіба так можна адносіцца да чалавека?

Старшыня выканкома гарадскога савета Мікалай Ільіч Сабельнікаў заявіў у «дзесяты і апошні раз»:

— Бяру лёс гэтага чалавека і яго сям'і на сябе. Кропка!

Адлегла на сэрцы і ў кіраўніка аўтамабільнага трэста Георгія Дзімітравіча Котава.

— Я за Бруева — гарою!

Настаў час, калі ўсе тыя «горы» сышліся ў адну. Сабельнікаў у катэгарычнай форме патрабаваў ад старшыні Акцябрскага райвыканкома горада Івана Барысавіча Цячуяшава ў шасцітыднёвы тэрмін перасяліць сям'ю Бруева ў кватэру з двух пакояў. Котаў, са свайго боку, даў Івану Барысавічу гарантыю, што з уводам у строй новага дома аўтамабільны трэст верне райвыканкому раўназначную жылую плошчу. Цяпер слова за Цячуяшавым.

Павел Міхайлавіч чакаў ад Івана Барысавіча сапраўднай чалавечнасці. Для гэтага ён меў усе падставы. Ён добра памятаў тыя наказы выбаршчыкаў, якія давалі ў свой час старшыню выбаршчыкі і на якія старшыня адказаў:

— Служыць савецкаму чалавеку — мая найвышэйшая мэта.

Аднак, калі Бруеў пераступіў парог райвыканкома, Цячуяшаў адвярнуўся ад яго, а калі вёў пасяджэнне выканкома па разгляду заявы Бруева і рэзалюцыі старшыні райвыканкома М. Сабельнікава, то не ўлічваў, што Бруеў — цяжка хворы інвалід, што ў яго вялікая сям'я і г. д. Самога Паўла Міхайлавіча ён пратрымаў за дзвярыма пакоя, дзе ішло пасяджэнне. А назаўтра прыслаў яму па пошце копію рашэння № 108, у якім напісана: «...у пазачарговым прадастаўленні жылплошчы адмовіць...»

Цяпер вельмі злуюць на Цячуяшава і М. Сабельнікаў і В. Сініцын.

— Чэрствы ён чалавек!

Слушна зазначаюць.

А вы самі, старшыя таварышы па рабоце, чаму дазваляеце, каб вашы ўказанні ігнараваліся ў райвыканкоме і трэсце?

В. ХОМКА.

г. Віцебск.

# ГЕРОЙ І ЧАС

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

несці да катэгорыі станоўчых людзей? Вядома, можна.

Падзел на станоўчых і адмоўных герояў у нашым мастацтве ператварыўся ў нейкае пракрустава ложа, у схему «дазволенага» і «недазволенага», у якой не можа змясціцца ўся разнастайнасць характараў савецкіх людзей. Успомнім, напрыклад, Тулягу з п'есы К. Крапівы «Хто смяецца апошнім». Які гэта герой, станоўчы ці адмоўны? Яго, мне здаецца, не аднясеш ні да аднаго з гэтых паняццяў. А між тым, у асноўным гэта — добры савецкі чалавек, які мяняецца і расце духоўна ў працэсе пераадолення перажыткаў мінулага.

КАЛІ мы, імкнучыся стварыць на сцэне вобразы станоўчых герояў, пачнём старацца паказваць іх абавязкова «чысценькімі», ідэальнымі (часам на шкоду жыццёвай праўдзе) і будзем думаць, што тым самым садзейнічаем выхаванню гледача, дык можна глыбока памыліцца. А такая памылковая тэндэнцыя назіраецца ў нас і ў практычнай дзейнасці тэатра, і ў тэатральнай крытыцы. У прыватнасці, яна адчуваецца таксама і ў артыкуле Р. Бярозкіна «А які ж ён станоўчы?», дзе зроблены разгляд п'ес «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна і «Любоў, Надзея, Вера...» П. Васілеўскага.

Некаторыя крытычныя заўвагі, выказаныя Р. Бярозкіным, заслугоўваюць сур'ёзнай увагі і павінны быць улічаны драматургамі. Але многае ў артыкуле гэтага крытыка выклікае незадавальненне і пярэчанне. Рэжысёр коласаўскага тэатра Б. Браганцаў у сваім усхваляваным артыкуле «Місія артыста-грамадзяніна» даў дастаткова пераканальны адказ Р. Бярозкіну па сутнасці яго крытыкі вобраза Гаворкі. Я ж хачу пагаварыць пра нешта іншае, пра тыя моманты артыкула Бярозкіна, якія непасрэдна датычаць закранутай мною праблемы станоўчага героя.

Падагульняючы выказванні Р. Бярозкіна пра тое, як ён разумее станоўчага героя (я грунтуюся толькі на памянёным артыкуле), можна вывесці з іх дзве асноўныя думкі: па-першае, герой, які мае хаця б мінімальныя адхіленні ад норм маральнага кодэкса, не з'яўляецца станоўчым; па-другое, пра «станоўчасць» героя меркаваць дастаткова па яго словах, а не па яго жыццёвай пазіцыі, не па яго справах.

Калі стаць на такі пункт погляду, дык трэба проста выкінуць з савецкай літаратуры, у тым ліку і з драматургіі, вельмі многа герояў, якія сталі блізкія і дарагія нашым чытачам і гледачам.

Звернемся непасрэдна да артыкула Р. Бярозкіна.

Крытык катэгарычна адмаўляе вобраз Гаворкі як станоўчы. Чым жа ён аргументуе гэта? Р. Бярозкін прыводзіць словы Гаворкі: «Нават у біблії, Галя, сказана: «Жена да будет рабой своего мужа...» Кожнаму, мне здаецца, ясна, што гэта жарт. Але аўтар артыкула лічыць, што станоўчаму герою так жартаваць не дазволена, бо гэта можа быць успрынята як жаданне Гаворкі паказаць сваю перавагу над іншымі, у дадзеным выпадку — над Галяй. Р. Бярозкін піша, што сваім жартам Гаворка мае на мэце праверыць Галю — ці зразумее яна яго.

Другія словы Гаворкі, сказаныя таксама ў жартаўлівай форме: «Лёс любіць тых, хто з зоркамі... Вось уяві: з'яўляюцца ў палац гэтага свяцілішча навукі новы акадэмік — Герой, і жонка яго — Гераіня», — Р. Бярозкін называе «ідыліяй, вартай самага дробнакалібернага кар'ерыста». Значыць, калі хочаш быць станоўчым героем, не жартуй!

Атрымліваецца так: герой дабрадушна жартуе, а крытык заўважае, што ён праяўляе ганарыстасць, «выкручваецца» і г. д. Дзіўная логіка ў аўтара артыкула.

Або далей. Галя звяртаецца да Гаворкі: «Вас трэба пазнаць, душу вашу...» На гэта той адказвае: «Не будзем пра душу, Галя. Гэта — містыка. У мяне няма душы. Я — бяздушны». Па ходу дзеяння, Гаворка сцвярджае яшчэ, што ён чарсцвее душой, што ён «бяззубы, як усе лірыкі» і што яму «мімаволі прыходзіцца многа працаваць». Р. Бярозкін, сабраўшы разам усе гэтыя выказванні Гаворкі пра самога сябе, называе іх «выкрутасамі», «самакрытычнасцю на дыбачках» і г. д. І лічыць, што ўсё гэта герой гаворыць толькі, каб набіць сабе цану. Але навошта крытык навязвае герою такія намеры? Ці не прасцей разумець словы Гаворкі без «выкрутасаў», разумець своеасаблівасць яго мовы як рысу яго характару, як прывычку гаварыць жартуючы, з некаторай іроніяй да сябе. Што ж тут дрэннага? І чаму чалавек з такой рысай характару не можа быць станоўчы?

Асабліва збянтэжыла Р. Бярозкіна заява Гаворкі: «Мне трэба ажаніцца...» і яшчэ: «Шчаслівы чалавек, якому з такім клопатам падаграюць абед...» Крытык заўважае: «Што і казаць, не надта змястоўныя ідэалы сямейнага шчасця!» А хто сцвярджае, што на гэтых інтарэсах Гаворкі і заканчваецца ўсё ўяўленне яго аб сямейным шчасці? І. Шамякін, а значыць, і яго герой, не ставіў перад сабою задачы выказваць у гэтых словах які-небудзь ідэал. А з другога боку, што дрэннага і што супярэчыць нашаму ўяўленню аб станоўчым героі з таго, што сказаў Гаворка? Якому мужчыну не будзе прыемна тое, пра што марыць герой п'есы? А хіба жанчыну гэта прыніжае? Нісколькі.

Апроч таго, нельга ж ад простай бытавой размовы героя ды яшчэ ў інтымнай абстаноўцы патрабаваць, каб кожная фраза гучала закончанай і бясспрэчнай формулай адносін да той ці іншай з'явы.

У сувязі з гэтым хочацца спытаць у крытыка, а што ён думае пра адказы Карла Маркса на сямейную «анкету». На пытанне: «Станоўчая рыса, якую вы больш за ўсё цэніце ў жанчыне?»—Маркс адказаў: «Слабасць». А на наступнае пытанне: «Ваш любімы дэвіз», — ідзе адказ: «Бяры ўсё пад сумненне».

Уявім, што такія адказы даў бы не Маркс, а герой шамякінскай п'есы Гаворка. З якім гневам абрушыўся б крытык на такую «аморальную заяву» Гаворкі! І ўжо абавязкова пазбавіў бы яго права лічыцца станоўчым. Ці не праўда, выказванне К. Маркса аб жанчыне куды мацнейшае, чым мара Гаворкі з'есці абед, падагрэты жонкаю? Бачыце, таварыш крытык, нават сам К. Маркс у бытавой абстаноўцы дапускаў свабодныя разважанні, якія зусім не прэтэндуюць на артадаксальнасць (не даводзіцца тут гаварыць аб тым, як у сапраўднасці К. Маркс высока цаніў жанчыну), і не ўжываў усеабдымныя і на ўсе выпадкі жыцця прыгодныя формулы. А вы, таварыш Бярозкін, патрабуеце гэта ад Гаворкі...

Ацэньваць героя неабходна, зыходзячы з пэўнай канкрэтнай абстаноўкі, трэба разумець яго характар, акалічнасці, пры якіх гаворыцца тая ці іншая фраза, і ацэньваць яго па справах, па яго жыццёвай пазіцыі. А справы трэба браць у іх узаемасувязі. Калі мы будзем меркаваць, напрыклад, аб Чапаеве па такім яго ўчынку, як патрабаванне выдаць дыплом урача ветэрынару, каб гэтым ліквідаваць былую сацыяльную несправядлівасць, дык мы і Чапаева выключым з шэрагаў станоўчых герояў. Важна таксама зразумець пазіцыю героя, яго накіраванасць, нарэшце, яго ідэалы.

Якая пазіцыя Гаворкі? Не таму ён прыехаў у вёску, што ўсё пазнаў, усё выпрабаваў і, адчуваючы сваю перавагу над іншымі, будзе тут навучаць людзей розуму. У Гаворкі з'явілася натуральная патрэба зведаць глыбей жыццё. Працуючы ўвесь час у горадзе, ён штосьці не дагледзеў у разнастайным жыцці народа. І вось ён — у вёсцы, прыехаў вучыцца ў жыцця, пазнаваць яго. Але неспакойны, турботлівы чалавек не можа заставацца староннім назіральнікам, бачачы, як побач з ім робяцца дрэнныя справы. Ён актыўна ўмешваецца ў жыццё, у гэтыя справы, у канфлікты, грамадскія і асабістыя. І чым можа, памагае людзям.

Такая жыццёвая пазіцыя Гаворкі, такая яго дзейнасць. Менавіта гэтыя якасці і робяць Гаворку безумоўна станоўчым літаратурным героем.

Вось чаму прынцыпова нельга пагадзіцца з ацэнкай Р. Бярозкіным вобраза Гаворкі. Гэты вобраз — найбольш значнае, што ёсць у п'есе І. Шамякіна, гэта — спроба адысці ад схемы, ад літаратурнага штампу. Я цалкам згодзен з ацэнкай вобраза Гаворкі, дадзенай крытыкам Б. Емяльянавым у часопісе «Театр». Крытык піша: «Ды гэта ж сапраўдны станоўчы герой нашых дзён, аб якім столькі пішуць і спрачаюцца. Уся справа ў тым, што ён даўно перарос прапануемыя яму традыцыйныя канфлікты. Іменна ў гэтым перавага вобраза Гаворкі».

Сутнасць прынцыповай памылкі Р. Бярозкіна ў разуменні станоўчага героя асабліва выразна відаць у наступным яго выказванні: «Зорына (героя п'есы П. Васілеўскага) цягнуць у будучыню, у камунізм. А яму яшчэ трэба выхоўваць і выхоўваць сябе, каб стаць чалавекам будучыні. Зрэшты, як і Гаворку. Як і многім іншым героям нашай літаратуры, якія па дзіўнаму непаразуменню і, магчыма, у выніку зніжэння нашых ідэйна-маральных ацэнак, ходзяць у героях сучасных, перадавых і, безумоўна, станоўчых».

Так, Р. Бярозкін гаворыць праўду: і Гаворку і асабліва Зорыну трэба яшчэ многа выхоўваць сябе, каб стаць людзьмі будучыні. Але ж Гаворка і Зорын жывуць не ў будучыні, а сёння, іх ніхто і не выдае за людзей будучыні. І несумненна, на шляху да гэтай будучыні людзі, падобныя да Гаворкі і Зорына, будуць расці, выхоўвацца, рабіцца лепшымі. Але на той падставе, што яны яшчэ не падыходзяць пад катэгорыю «людзей будучыні», выкідаць іх з радоў станоўчых герояў нашага часу неправамерна. Нельга, стварыўшы ў сваім уяўленні вобраз ідэальнага чалавека будучыні, рабіць яго трафарэтам, з дапамогаю якога правяраецца станоўчасць нашых сучаснікаў. Крытэрыі станоўчага, перадавога чалавека — гістарычныя, яны мяняюцца разам з жыццём. І нельга чалавека адной эпохі мерацць меркаю другой эпохі. Для мяне Гаворка — безумоўна станоўчы вобраз. Хацелася б, каб у жыцці больш было такіх людзей, простых і неспакойных.

Калі ж Р. Бярозкін паняцце «станоўчы герой» тлумачыць у сэнсе — «ідэальны герой», дык тады яго праўда, Гаворка не з'яўляецца такім. Але я думаю, што галоўная задача літаратуры і мастацтва — сцвярджаць ідэал, да якога павінны імкнуцца людзі, а не адлюстроўваць нежыццёвыя схемы ідэальных людзей. Бо станоўчы чалавек такі зусім не таму, што ён збірае ў сабе ўсе вядомыя нам лепшыя рысы і якасці чалавека цяперашняга і будучага. Такога чалавека цяжка сабе ўявіць. Станоўчасць можа і павінна вызначацца асноўным крытэрыем: карыснасцю чалавека для нашага грамадства. Тут не лішне прыгадаць словы Салтыкова-Шчадрына: «Няхай не падумае, аднак, чытач, што мы патрабуем ад пісьменніка адлюстравання людзей ідэальных, якія маюць у сабе ўсе магчымыя дабрачыннасці; не, мы патрабуем ад яго зусім не людзей ідэальных, а патрабуем ідэалу».

ПРАБЛЕМА станоўчага героя цесна звязана з праблемай стварэння на сцэне яркіх нацыянальных характараў, бо дух народа, яго сіла і накіраванасць праяўляюцца перш за ўсё ў станоўчых прагрэсіўных якасцях, ідэях яго лепшых прадстаўнікоў.

На старонках газеты «Літаратура і мастацтва» ўжо закраналіся пытанні нацыянальнай своеасаблівасці беларускага тэатральнага мастацтва, пытанні развіцця і працягу традыцый нацыянальнай сцэны. Так, А. Звонак бачыць адну з прычын страты творчых пазіцый нашым старэйшым Тэатрам імя Янкі Купалы ў адступленні ад традыцый народнасці. Ён лічыць, што больш дакладнаму вызначэнню гэтых пазіцый раней садзейнічалі такія тэатральныя пастаноўкі, як «Раскіданае гняздо», «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «На Купалле», а таксама «Мост», «Бацькаўшчына», «Пагібель воўка» і іншыя. Гэтая думка А. Звонака безумоўна правільная, бо тэатр сапраўды блізкі і неабходны народу толькі тады, калі ён са сваёй сцэны расказвае пра лёс народа, пра яго інтарэсы і спадзяванні.

Зусім справядліва папракаюць калектыў купалаўскага тэатра за тое, што ў апошнія гады ён стаў менш цікавіцца жыццём свайго народа, а гэта адмоўна адбіваецца перш за ўсё на лёсе самога тэатра.

Палемізуючы з А. Звонакам, крытык В. Каваленка выказвае важнае меркаванне аб тым, што народнасць — гэта не застылая раз і назаўсёды дадзеная катэгорыя ці паняцце. Сутнасць народнасці твора заключана не ў вонкавых яе праявах, а ў духу твора, які адпавядае сучасным ідэям народа. Між іншым, В. Каваленка, відаць, няправільна зразумеў А. Звонака, сцвярджаючы, што быццам бы той бачыць ідэал «у мінулым, у 20-х гадах...»

Але ў артыкуле А. Звонака «Пагаворым шчыра» няма такой думкі. Як я зразумеў, Звонак хоча сказаць, што ў свой час Тэатр імя Я. Купалы больш звяртаўся да п'ес на тэмы з жыцця беларускага народа, і што гэта добрая традыцыя цяпер парушана. Але з гэтага зусім не вынікае, што А. Звонак спрабуе навязаць тэатру ўвесь яго ранейшы рэпертуар. Далей В. Каваленка вельмі катэгарычна адмаўляе ўсе ранейшыя нацыянальныя спектаклі, пастаўленыя купалаўцамі, і лічыць, што гэта даўно пройдзены этап, да якога не можа быць звароту. Думаецца, што гэта не так. Калі б нашы тэатральныя калектывы, зразумела, побач з актуальным сучасным рэпертуарам, паказалі цяпер гледачам п'есы «Раскіданае гняздо», «Кастусь Каліноўскі» або іншыя драматычныя творы на фальклорна-гістарычныя тэмы, дык гэта зусім не было б здачай ці адступленнем ад іх сучасных пазіцый, ад заваёў, дасягнутых імі за апошнія дзесяцігоддзі. Іншая справа, што па свайму характару гэтыя пастаноўкі ні ў якім разе не павінны паўтараць зробленае раней. За многія гады беларускія тэатры выраслі ў ідэйна-мастацкіх адносінах, і мы маем права чакаць новага, сучаснага прачытання класічных твораў.

Увогуле ж можна пагадзіцца з В. Каваленкам, які заклікае ісці наперад, «бачыць гісторыю тэатра ў яго галоўных творчых тэндэнцыях».

Я ЗУСІМ не лічу, што нашы беларускія тэатры адарваны ад жыцця свайго народа і не думаюць пра яго надзённыя праблемы. Такія, напрыклад, спектаклі, як «Лявоніха на арбіце» і «Любоў, Надзея, Вера...» (Тэатр імя Янкі Купалы), «Крыніцы» і «Выгнанне блудніцы» (Тэатр імя Якуба Коласа), «На хвалях Серабранкі» (Тэатр юнага гледача) і некаторыя іншыя пераканальна гавораць аб імкненні тэатраў актыўна ўмешвацца ў сучаснае жыццё народа. Але зроблена ў гэтым напрамку пакуль яшчэ мала. Хацелася б пажадаць, каб поспехі нашых тэатральных калектываў у паказе сучаснай рэчаіснасці раслі з кожным днём. І чым больш у нас будзе творчых дасягненняў, тым вышэйшай будзе культура беларускага народа і тым большы ўклад мы ўнясём у скарбніцу камуністычнай культуры.

## МАЙ—ЧЭРВЕНЬ

## «НЕМАН»

У № 3 часопіса «Неман» надрукаваны матэрыял да 50-годдзя газеты «Правда».

Пад рубрыкай «Справы і людзі сямігодкі» змешчан нарыс Г. Коласа «Без пазалочанай рамы». Артыкул Б. Паўлёнка «Ён будзе цудоўным, гэты свет!» надрукаваны ў раздзеле «Публіцыстыка».

Проза прадстаўлена апавяданнямі «Гронка вінаграду» А. Зарыцкага, «Хто ты для мяне?» С. Курылёвай, «Сын» М. Казлоўскай, «Развітанне» Я. Скрыгана (пераклад В. Жыжэнкі) і дакументальнай аповесцю Я. Галайдзіна «Збіты над Тыльзітам».

У часопісе друкуюцца вершы Я. Пушчы, Р. Барадуліна, Н. Кісліка, М. Навакшэнава, Б. Яроцкага.

З успамінамі пра Я. Купалу выступае К. Цітоў. У артыкуле М. Мельнікава расказваецца пра аўтара музыкі да «Песні аб Буравесніку» М. Горкага.

Літаратурная крытыка прадстаўлена артыкулам Ф. Куляшова аб рамане І. Мележа «Людзі на балоце» і рэцэнзіямі на кнігі: «Анталогія беларускай паэзіі», «Ленін-публіцыст» Б. Якаўлева, «Каралінцы» Р. Сабаленкі, «Мастацтва Савецкай Беларусі» М. Арловай і «Дождж на калёсах» Г. Куноўскага.

## ДЗВЕ ПРЭМ'ЕРЫ

Два новыя спектаклі выпусціў народны тэатр Магілёўскага Дома культуры чыгуначнікаў. Першы з іх — па п'есе К. Фіна «Пачатак жыцця»—прысвечаны пакарыцелям цаліны. У спектаклі апавядаецца пра тое, як залатымі рукамі нашай моладзі стэпавыя прасторы Казахстана ператвараюцца ва ўрадлівыя палі, як у пераадоленні цяжкасцей фарміруюцца і гартуюцца характары людзей, мацнеюць правераныя ў суровых выпрабаваннях пачуцці дружбы і кахання. Паставіў спектакль рэжысёр народнага тэатра У. Бараноўскі, мастацкае афармленне М. Клімава.

Другі спектакль—па п'есе Ганшына і Коласавай «Зорачка»—падрыхтаваны дзіцячай драматычнай групай народнага тэатра. У ім паказаны жыццё, вучоба, патрыятычныя імкненні нашых шчаслівых савецкіх дзяцей. Паставіла спектакль рэжысёр Л. Кавальская. У ім удзельнічаюць і дарослыя і юныя аматары сцэнічнага мастацтва.

## СПЫТАЙ У КНІГАРНІ!

## ПРАЎДЗІВЫ ТВОР

«Вязьмо» Міхася Зарэцкага — адзін з лепшых беларускіх раманаў, напісаных на пачатку 30-х гадоў. Выхаду гэтай кнігі моцна чакалі — адны, каб зноў яе перачытаць, другія — каб упершыню разгарнуць цікавыя старонкі.

Не многа ў нас твораў, якія з такой шырынёй і паглыбленасцю ў сацыяльную псіхалогію людзей расказваюць нам сягоння пра пераломную пару ў сельскай гаспадарцы — пару калектывізацыі.

Раман «Вязьмо» напісан, як кажуць, па гарачых слядах, і ў сваёй аснове мае жывую, надзвычай вострую сітуацыю. Сакратара парт'ячэйкі Сымона Карызну, асноўнага героя рамана, захапіў размах вялікага пераўтварэння, што ўварвалася ў сяло, у дробнаўласніцкае жыццё. Ён радуецца рэвалюцыйнай ломцы старога сялянскага ўкладу («Рэвалюцыя не згасла, яна ўзнімаецца з новай сілай...»), і, захапіўшыся маштабнасцю, «стопрацэнтнасцю» калектывізацыі, пачынае забываць пра самае галоўнае—пра яе сутнасць. Ён міжволі пачынае дзейнічаць заадно са старшынёй сельсавета Пацяробам, для якога калектывізацыя — справа нескладаная: «Я вам за тры дні ўвесь сельсавет у калгас увапхну».

Сымон Карызна хоча быць «праўдзівым, сумленным сябрам сваёй партыі», імкнецца працаваць так, як малады рабочы Зелянюк, прысланы з горада на падмогу сельскім актывістам. Гэта яго шчырае жаданне. І ўсё ж непрыкметна для самога сябе ён пачынае сыходзіць з адзіна правільнага шляху. Яго паводзіны глыбока матываваны ў рамане. У яго ёсць таямніца, якой ён баіцца сам і баіцца, каб пра яе не ўведалі людзі. Яго бацькоў, якім ён дапамог стаць «моцнымі гаспадарамі», раскулачылі таксама, як ён, іх сын, раскулачвае ў той жа час другіх. Адсюль — душэўная неўраўнаважанасць, імкненне сваёй паспяховай працай загладзіць былую віну, і ў выніку — самае горшае: перагібы, дыскрэдытацыя вялікай справы будаўніцтва новага калгаснага жыцця. Гэта яго крах, трагедыя — тое «вязьмо», што зацiскаецца вакол героя ўсё тужэй. Усю заганнасць «пацяробаўшчыны» выкрывае актыўны, поўны энергіі і настойлівасці рабочы Зелянюк.

Вобразы рамана выпісаны каларытна, праўдзіва.

М. АРОЧКА.

## З БАГАТАЙ СПАДЧЫНЫ

Мінула больш паўстагоддзя з тае пары, калі з'явіліся ў друку першыя творы Цішкі Гартнага, але лепшыя яго кнігі вытрымалі выпрабаванне часам, яны і цяпер хвалююць і натхняюць чытачоў.

Літаратурная спадчына пісьменніка надзвычай багатая. Ён пісаў раманы, аповесці, апавяданні, вершы і паэмы, нарысы, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы.

Нядаўна ў Маскве выйшла з друку кніга Ц. Гартнага «Гаспадар» (на рускай мове). У ёй змешчаны апавяданні і аповесці 1918—1931 г. г. Магчыма, і не ўсе яны роўныя ў мастацкіх адносінах, але ў кожным з іх адчуваеш подых часу. У цэнтры твораў зборніка «Гаспадар» — чалавек, яго жыццё, праца, імкненні. Пісьменнік паказвае жыццё беспрацоўных да рэвалюцыі («У пошуках працы») і местачковай інтэлігенцыі ў першыя гады Савецкай улады («Трэскі на хвалях»), стварае вобразы перадавых рабочых («Непрыемны выпадак», «Гаспадар») і сельскіх актывістаў («Прысады»). Ц. Гартны адным з першых у нашай літаратуры выступіў супраць фашызму, паказаўшы рэвалюцыйныя настроі рабочых і перадавой інтэлігенцыі Германіі ў апавяданні «Смерць Германа Васермана» (1930).

Творы размешчаны ў кнізе ў храналагічным парадку, што дае чытачу магчымасць прасачыць за ростам майстэрства пісьменніка, за тым, як уплывала жыццё, новая, савецкая рэчаіснасць на яго творчасць.

Дзяржаўнае выдавецтва мастацкай літаратуры зрабіла карысную справу, выдаўшы творы выдатнага пісьменніка.

М. АУГУСЦІНОВІЧ.

# МАЛЕНЬКІМ ЧЫТАЧАМ

## СЦЕЖКАМІ КАЗАК

У Беларускім дзяржаўным выдавецтве выйшла некалькі паэтычных кніжак для дзяцей.

З любоўю і ўсхваляванасцю піша А. Лойка аб дзецях у кніжцы «Як Тоня рэха шукала». У ёй маленькі чытач знойдзе цікавую казку, назву якой носіць зборнік. Пачынаецца казка паэтычным народным запевам:

Шэрая зязюля
На суку кувала,
На суку кувала —
У бор запрашала.

Пачуўшы запрашэнне, выбягае з хаты маленькая дзяўчынка Тоня і спяшаецца ў бор. Лес сустракае Тоню «шоўкавай травою, іглiцай сухою, сакаўной ажынай і малінай». Ад радасці, замілавання да прыроды дзяўчынка аж пляснула ў далоні. І раптам навакол яе хтосьці таксама заляскаў у далоні. Не захацела Тоня

Ні грыбоў, арэхаў, —
Захацела рэха
Злавіць на пацеху!

І пачынаюцца вандраванні дзяўчынкі па лесе ў пошуках рэха. Так нічога і не знайшоўшы, вярнулася Тоня дамоў. Маці вынесла ёй збан з малаком. Выпіўшы да дна, дзяўчынка ўздыхнула. У збане таксама хтосьці ўздыхнуў. Яна крыкнула, у збане адгукнуўся яе голас. Дзяўчынка ад радасці аж расцвіла і гаворыць маці:

Паглядзі
Я
рэха
у руках трымаю!

Малюнак мастака Я. Куліка да кнігі А. Лойкі «Як Тоня рэха шукала».

Так заканчваецца казка, блізкая па свайму стылю і свайму духу да народных казак, да вуснай народнай творчасці.

Па народных матывах напісаны і вершы «Адкуль казкі» і «Як за лугам, за рэчкаю».

Знойдзе чытач у кніжцы і іншыя цікавыя вершы, — напрыклад, верш «Верабейчык», напісаны ў форме калыханкі. Ён прасякнуты шчырай лірычнай цеплынёй.

Кніжка А. Лойкі «Як Тоня рэха шукала» — добры падарунак маленькаму чытачу.

## ЦУДОЎНЫ СВЕТ ПРЫРОДЫ

Дзецям дашкольнага ўзросту адрасавана кніжка В. Хомчанкі «Суседзі». Аўтар любіць прыроду і ўмее цікава і павучальна расказаць аб ёй. Вось невялічкая замалёўка «Гняздо ў траве». Хлопчык знайшоў у лесе птушынае гняздо. Паглядзеў і пайшоў. А назаўтра зноў трапіў на тое ж самае месца. Але гняздо ўжо было вышэй верасу. Аказалася, што пад ім вырас грыб баравік і сваёй шапкай падняў гняздо з зямлі. Хлопчык зрэзаў баравік і паклаў у кошык, а гняздо паклаў на ранейшае месца, — няхай гадуюцца птушаняткі.

Арыгінальная па задуме і вырашэнню тэмы замалёўка «Старыя і новыя загадкі». Бабуля загадвае дзецям загадкі, а яны не могуць адгадаць, бо ўсё гэта пра цяжкае мінулае, якога дзеці не ведаюць.

